Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

| АДРЕС РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТРАЦЫІ: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12.). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г. | ПАДПІСКА на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 грошы. | Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за рад. пэтыту ў 1 шп. |
|---|---|---|

№ 35. Вільня, Серада, 20-га траўня 1925 г. Год I.

## Маблізацыя ворагаў.

З лёгкае рукі Польшчы, у цэлым радзе „дэмакратычных“ рэспублік, дзе пануе буржуазія, распачалася адкрытае перасьледаваньне беларусаў.

Літоўская ксяндзоўска-кулацкая партыя, якая ўзяла ўладу ў Літве ў свае рукі, зьліквідавала самым рашучым і грубым спосабам літоўска-беларускую дружбу.

Сьледам за Польшчай — як-раз пасьля польска-латвійскага зьбліжэньня — пайшоў і ўрад Латвіі. Сфабрыкаваны латышскай дэфэнзывай працэс у Дзьвінску меў на мэце разьбіць беларускую культурную работу ў Латгаліі і, хаця ўсе пасудныя былі апраўданы, усё-ж сваей мэты дапяў. Цяпер гэтых апраўданых судом беларускіх дзеячоў высылаюць з граніц Латвіі, як „obcokrajowców“.

Урэшце, як з нязвычайным здаваленьнем падае карэспандэнт „Gaz. Warzs.“ з Прагі, і ў Чэхаславакіі — пасьля згоды з Польшчай —пачынае разьвівацца варожы да беларусаў рух. Так, на зьезьдзе чэскае эндэцкае партыі („нацыянальна-дэмакратычнай“) прынята пастанова, якая выказываецца проці ўсякага роду дзяржаўных імкненьняў беларусаў і ўкраінцаў, а так-жа проці падтрымліваньня чэскім урадам беларускае і ўкраінскае эмігранцкае моладзі, якая мае чэскія стыпэндыі ў вышэйшых школах Чэхаславацкае Рэспублікі...

У гэтым характэрным павароце на шкоду беларускаму руху мы бачым дзьве прычыны. Адна з іх—бадай—што часовая: гэта—уплывы польскае палітыкі, бо-ж запраўдыя тыя свабоды, якімі карысталіся беларусы, да прыкладу ў Латвіі, увесь час былі сольлю ўваччу і жывым дакорам палякам. І пана міністра Скшыньскага можна павіншаваць з удачай ня толькі ў справе гданскіх „skrznek“, але і з рашучым паваротам палітыкі новых прыяцеляў Польшчы (ведама, апрача Літвы) у варожым да беларусаў кірунку.

Але ёсьць і другая прычына, якая выклікае ненавісьць да беларускага адраджэнскага і вызвольнага руху буржуазных урадаў Польшчы і яе саюзьніц. Гэта—тое, што беларускі адраджэнскі рух, дзякуючы польскай палітыцы, усё больш і больш узьбіваецца на шлях клясавага змаганьня беларускіх працоўных масаў з „радзімай“ і чужой буржуазіяй. Гэта—тое, што цэнтр беларускага руху, ізноў-ж ў значнай меры дзякуючы становішчу Польшчы, перайшоў з заходу на ўсход, з Вільні—у Менск, з Заходняе Беларусі, гэтых многапакутных „Крэсаў“,—у Беларускую Сацыялістычную Радавую Рэспубліку. І ўся тая беларуская культура, якая там—на ўсходзе — выкоўваецца рукамі беларускіх працоўных масаў, зусім натуральна мае ў сабе новыя зачаткі — *зачаткі ідэалёгіі сацыяльнае рэвалюцыі*. Беларускі адраджэнсхі рух у сваей беларускай рэспубліцы прымае ўсё больш выразна *клясавы характар*, а гэта адбіваецца і на настроях Заходняе Беларусі, яркім выражэньнем чаго было апошняе соймавае выступленьне дэпутата Тарашкевіча.

Ідзе *мабілізацыя буржуазных сілаў*, каб задушыць беларускі рух, як *небясьпечны для панаваньня буржуазіі* ў тых краёх, гдзе іструе беларуская меншасьць. Але пад той час, як беларусы бачаць усё больш варожыя адносіны да іх буржуазных грамадзянстваў, тым больш ярка выяўляецца патрэба для беларусаў абаперціся на другую сілу—сілу, варожую да варожае да нас буржуазіі. На аб'яднаньне буржуазіі розных краёў дзеля змаганьня з беларусамі мы павінны адказаць аб'яднаньнем нашых працоўных масаў з усімі працоўнымі гэных краёў.

Да гэтага няўхільна вядзе і давядзе само жыцьцё!

## Фальшаваньне голасу работнікаў.

**Наймiт дэфэнзывы выступае самазванна ад імя беларускіх работнікаў.**

У Варшаве выходзіць польская газэта пад назовам «Unja». Назоў гэты многа гаворыць: слова „unja“ значыць еднасьць, аб'яднаньне. Польская «дэмакратыя» вельмі любіць гэтае слова і часта паўтарае яго, дэклямуючы салодка аб „брацтве“ польскага народу і... заваяваных аружнай сілай „меншасьцяў“!.. А што яна пры гэтым думае ў душы сваей, найлепш паказуе нядзельны нумар гэтае газэты, у якім на першай страніцы надрукавана заметка з гэткім загалоўкам вялізарнымі літарамі:

„Bratnia unja białorusinów z polakami we Francii. Wielka demonstracja jedności i wspólnej obrony“ («Братняя еднасьць беларусаў з палякамі ў Францыі. Вялікая дэманстрацыя еднасьці і супольнае абароны»).

І вось, пад гэтым шумным загалоўкам абвяшчаецца, што вядомы ўжо сваімі нягоднымі **ілжывымі даносамі на беларускіх паслоў у Польшчы і беларускіх дзеячоў у Латвіі**, былы палкоўнік царскай арміі Ладнов, што некалі быў прымазаўшыся да беларусаў,—выступіў у Ленс (у Францыі) на сабраньні саюза польскіх работнікаў з прывітаньнем ад імя... «беларускіх работнікаў», пры чым сказаў:

«Маю чэсьць далучыць свой голас ад імя **групы беларускіх работнікаў**, польскіх грамадзян, сяброў саюзу. Мы дужыя ня лічбай сваей на эміграцыі, але дужыя імкненьнем да згоды, брацтва і еднасьці. У гэтай еднасьці бачым наш супольны дабрабыт і супольную абарону **нашае** дзяржавы (—ведама, Польшчы!—*Рэд.*). Не сумляваемся, што нашае брацкае прывітаньне магутным эхам дойдзе да Варшавы і беларускага насяленьня ў Польшчы (?!). Не сумляваемся, што гэтае нашае прывітаньне будзе спаткана з радасьцяй нашымі прыяцелямі-саюзьнікамі (—чытай: французамі!—*Рэд.*). **Учасьце нас, беларусаў, у супольнай працы з палякамі будзе найлепшым адказам на шырока пашыраны па адрасу Польшчы паклёп аб быццам-то ўціскаьні і нішчэньні нацыянальных меншасьцяў палякамі**. Не сумляваемся, што інтарэсы **работнікаў-беларусаў** знойдуць адпаведнае падтрыманьне з боку **дастойных прадстаўнікоў польскага ўраду**»...

Мы павінны сказаць, што ў апошнім і наша часопісь і ўвесь беларускі працоўны народ—бязумоўна і абсалютна сумляваюцца! Затое, думаем, ніхто не сумляваецца, што выступленьне палк. Ладнова запраўды адаб'ецца ў Варшаве—у касе II аддзелу генаральнага штабу, скуль, як ведама ўсім, п. Ладнов чарпаў значныя бумы (на сваю жыдаедзкую і немцаедзкую кніжку «Огнемъ и мечомъ, голодомъ и болѣзнями»: ён атрымаў з гэтае крыніцы роўна 10.000 франц. франкаў). Адаб'ецца, пэўне-ж, і ў адпаведнай францускай установе. Аб гэтым сьведчыць «радасьць саюзьнікаў» з выступленьня гэтага «прадстаўніка» беларускіх работнікаў!..

А «Unja», падаючы гэтае самазваннае выступленьне найміта дэфэнзывы, дый йшчэ ў такой сэнсацыйнай форме, толькі ясна паказала, якімі крывымі дарогамі польская «дэмакратыя» імкнецца зьдзейсьніць лёзунг «вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі»: яна вядзе далей тую лінію, якую ў сваім часе распачаў яе ідэйны правадыр — галава „левіцовых“ нацыяналістаў—пан Юзэф Пілсудскі...

## Прамова дэпутата Валошына

**на паседжаньні Сойму 6-га траўня 1925 г.—у часе дыскусіі аб бюджэце мініст. Справядлівасьці**

Высокая Палата!

Я бяру голас ад імя клюбаў: Беларускага і Украінскага.

Пры выпаўненьні бюджэту на 1924 год выявілася, што на міністэрства справядлівасьці і падлягаючыя яму ўстановы выдана 61.134.112 зл. На 1925-ты бюджэтны год бюджэтная камісія вызначыла на суды суму, на 50 проц. вялікшую, а іменна 91.921.076 зл.— Хаця, раўнуючы з агульнай сумай дзяржаўных выдаткаў, выдаткі міністэрства справядлівасьці прадстаўляюць няпоўныя 5 проц., аднак, раўнуючы з гаспадарчым станам дзяржавы, з заможнасьцяй грамадзян і з тэй роляй, якую Польшча йграе ў Эўропе, сума гэтая—нязвычайна высокая і можа толькі сьведчыць аб урадавай палітыцы, якую ўрад вёў дагэтуль і маніцца вясьці далей. Бяссумліўна, вялікія крэдыты на так-званы „вымер справядлівасьці сьведчаць толькі аб нізкай культуры краю, сьведчаць аб **нязгодзе між грамадзянствам і ўрадам**, сьведчаць аб дзесятках тысячаў вязьняў, якіх урад парупіўся пазбыцца дарогай гвалту, ды якія ждуць на так-званы „вымер справядлівасьці“ па некалькі гадоў у вастрогах, часта антысанітарных, дзе навет церпяць катаваньне і ўміраюць ад хваробаў і голаду.

Павялічэньні крэдытаў для міністэрства справядлівасьці будуць зразумелыя, калі зьвяжам іх з ступеняй унутранае бясьпечнасьці ў дзяржаве.

Рашуча заяўляю, што **ад стварэньня Польскае дзяржавы супакою ня было**, а ў апошніх часох бачым, што ўрад пайшоў па шляху **адкрытае аружнае барацьбы з $2^1/_2$-міліённым беларускім і 7-міліённым украінскім народам у межах Польшчы**. Барацьба гэтае вядзецца даволі дзіка, бо польскі паліцыянт, вывядоўца і наастатку вайсковыя ўлады садзяць усё няпольскае ў вастрогі, пры чым вельмі часта катуюць насяленьне зялезнымі прутамі, кіямі, рвуць валасы на галаве, зьдзіраюць кляшчамі пазногці з пальцаў і навет робяць страшэнны боль палавым органам. Ахвярамі гэтых злачынстваўдзікага катаваньня былі: Сыльвэстар Беганскі, Антон Ракецкі, Марыя Клю, Кандрат Каўрыговіч, Антон Вайтовіч і інш. Апошні Антон Вайтовіч быў забіты на сьмерць у м-ку Красным, Вялейскага пав. Няшчаснаму арыштаванаму зроблены **35 цяжкіх ранаў**, пры чым **зломлены 6 рробраў**.

Справа масавых арыштаў у Польшчы агульна вядомая; даволі ўзяць у рукі першую папаўшуюся варшаўскую газэту, і тамака знойдзем паведамленьні аб масавых арыштах беларускага і украінскага насяленьня, аб затрыманьні нібы-то банды, аб даразных судох на Усходніх Землях, аб судовых працэсах беларусаў, украінцаў і камуністаў, ды гэтак далей.

Цяпер вось маем такія судовыя працэсы беларусаў у Горадні і Вільні, а месяц красавік павялічыў яшчэ лічбу гэных працэсаў.

Што датычыцца **лічбы вязьняў** у Польшчы, дык на 1 ліпня 1924 г. яна дасягала **30.302 асобы**; цяпер, з прычыны таго, што паліцыя вельмі ўжо рас-

паношылася і тасуе дзікія рэпрэсіі, **лічба вязьняў даходзе да 50.000 душ**, у тым пераважаюць **палітычныя** вязьні, **беларусы і украінцы**, якіх **вінавацяць у імкненьні да незалежнасьці, у арганізацыі асьветнае працы, у процідзяржаўнай агітацыі**. Дзяржавы, падзяліўшыя некалі Польшчу, перад вайной, не налічалі гэтулькі „мятежников“, і дзеля гэтага цяпер не хватае мейсца ў вастрогах у Польшчы; ды з гэтым улада ўмее парадзіць, **садзючы па 16 душ у катухі, аблічаныя на аднаго чалавека**, або трымаючы вязьняў у сьледчым арышце ў **падзямельлях і скляпох**. Нахапаныя вывядоўцамі і паліцыяй, яны ў гэтых вязьніцах знаходзяцца ў страшэнных абставінах. Нямашака нараў, сяньнікоў, мыла, бялізны, гарачае стравы,—а маса бруду, чэрвяў, ды дзікія адносіны і навет біцьцё вязьняў—вось характэрныя рысы польскіх вастрогаў.

Гэтыя страшэнныя варункі прымушаюць вязьняў рабіць галадоўкі: ім лепей памерці з голаду, чым гэтак пакутаваць з прычыны самавольства вастрожнае адміністрацыі. У часе гэтых галадовак і штучнага кармленьня вязьняў многа іх вымерла ў вастрогах Беластоку, Горадні, Львова і інш. Факты біцьця ручкай ад рэвальвэру і прыкладамі стрэльбаў мелі месца ў Влоцлаўскім вастрозе; у львоўскім вастрозе сядзяць арыштаваныя, праз якіх у сьледчым урадзе камісар Лабяк прапускаў электрычны ток. У гэткіх вастрожных варунках **палітычныя вязьні сядзяць да трох гадоў бяз суда**. Самая судовая процэдура, пачынаючы ад міравых судоў і канчаючы даразнымі, яўна адбываецца пад націскам пракурораў і паліцыі.

Даволі зайсьці да таго ці другога суда — ці то міравога суда на „Крэсах“, ці да даразнага, каб пераканацца, што арганізацыя судовае ўлады ў дзяржаве мае на мэце не памагаць згалеўшаму пасьля вайны насяленьню дарогай прыбліжэньня да яе судоў, не ўзгадаваньне народу на асновах правапарадку, а як-быццам зумысьля імкнецца да пераканаьня гэтага насяленьня, што **суд—гэта арудзьде**, якім некаторыя элемэнты ў дзяржаве карыстаюцца дзеля мэтаў, ня маючых нічога супольнага з вымерам справядлівасьці, — **мэтаў палітычных і асабістых.**

У найбліжэйшых да насяленьня міравых судох сядзяць ня юрысты, а людзі, галоўнай залетай якіх зьяўляецца тое, што яны глядзяць на гэтае насяленьне, як на ніжэйшую расу, над якой можна бяскарна зьдзекавацца, — сядзяць пераважна былыя судовымі пісцамі, захаваўшымі йшчэ з перадваеннага часу вялікую пашану да паліцыянта.

**Паліцыя тэрорызуе насяленьне,** засыпывае суды пратаколамі, на падставе якіх пан судзьдзя машынальна накладае вялізарныя штрафы, ня лічучыся ані з гаспадарчым палажэньнем згалеўшага народу, ані з вымаганьнямі справядлівасьці.

Ход важнейшых карна-судовых спраў прадстаўляецца пераважна гэтак. Паліцыя ня шукае запраўднага злачынцы, а хапае першага—наперад намечанага чалавека, з якім мае свае рахункі, — забірае яго на пастарунак, б‘ець яго тамака, льець ваду ў нос і прымушае прызнацца да няістнуючае віны. **Суд** аўтоматычна карае яго вастрогам і назначае вялізарны залог, каб ня даць абвінавачанаму магчымасьці апэляцыі, і пасылае ў турму.

Найвышэйшыя суды ў дзяржаве, гэтак-званыя даразныя суды з‘арганізаваны, праўда, лепш і працуюць больш спраўна. У кожным акружным судзе на „Крэсах“ ёсьць свае спэцыялісты — майстры ад даразных судоў, — спэцыялісты ў такой меры, што прыгатаўляюць прыгавор яшчэ перад разглядам справы, як гэта, прыкладам, было ў Стоўпцах. Паліцыя, вядучы пад кіраўніцтвам падпракурора Адольфа Ольшэвскага сьледзтва ў справе нападу на цягнік пад Лоўчай, пераступіла 14-дзённы тэрмін, неабходны дзеля аддачы справы даразнаму суду. Замест пакіраваць справу да сьледзтва, **падпракурор Ольшэвскі разам з сьледчым судзьдзёй Герасімовічам сфальшавалі даты:** адзін—у актах справы, другі — у пракурорскіх кнігах, — так, каб выглядала, што сьледзтва трывала ня больш 14 дзён.

Яшчэ характэрнае здарэньне было з судзьдзёй Аўсянкай, з акружнога суда ў Вільні. Ён, хаця быў хворы, паехаў у Вялейку на даразны суд. Калі знаёмы ягоны запытаўся, чаму хворы і абвязаны судзьдзя едзе на судовую расправу, — ён адказаў, што мусіць ехаць, бо, **калі не паедзе, дык гэных бандытаў не расстраляюць!** Факт гэты кідае яркае сьвятло на маральнае аблічча людзей, якія зьяўляюцца нібы-то выканаўцамі справядлівасьці на так-званых „Крэсах“.

Пры судох істнуюць масы судовых аплікантаў, якія на кошт дзяржавы атрымліваюць юрыдычнае ўзгадаваньне пры гэтых судовых установах — у атмасфэры даразных судоў, у атмасфэры, якая ня мае нічога супольнага з здаровай праўнай палітыкай. Пасьля нядоўгае аплікацыі, яны едуць на становішчы міравых судзьдзяў і сьледчых і бяруць у свае энэргічныя, але мала спрактыкаваныя рукі гаспадараваньне над нешчасьлівым насяленьнем.

Нарыс гэты далёка ня вычэрпывае крытыкі дзеяльнасьці міністэрства справядлівасьці, якая выражаецца славамі: **гвалт, беззаконьне** — і гвалт над масамі беларускага і ўкраінскага працоўнага сялянства і працоўнае інтэлігенцыі, для якіх ужо навет не стае мейсца ў польскіх вастрогах.

Гэтае напружаньне волі польскага ўраду,—ураду рэакцыі і кліру, з якім рука ў руку йдзе такзваная польская „лявіца“, мусіць давясьці толькі да **напружаньня сілаў пралетарыяту ў кірунку вызваленьня працоўных масаў з капіталістычнаабшарніцкае няволі**.

Дзеля вышэйсказанага, заяўляю ад імя Беларускага і Ўкраінскага Клюбаў, што мы будзем галасаваць проці бюджэту міністэрства справядлівасьці.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Рашэньне Гаагскага Трыбуналу.

16. V. Міжнародавы Трыбунал Справядлівасьці ў Гаазе выдаў прысуд, якім прызнаў за Польшчай права мець сваю пошту і ўсе зьвязаныя з яе працай установы ў Данцыгу,—значыць і паштовыя скрынкі.

### Водгукі ровенскага працэсу.

Украінскія дэпутаты, адданыя пад суд за „антыдзяржаўную“ крытыку польскіх парадкаў, каб давесьці перад „закутым“ нацыяналістычным польскім судом права прадстаунікоў народу крытыкаваць дзейнасьць ураду,—паставілі „экспэртамі“ амаль ня ўсіх найвыдатнейшых парлямантарыяў Эўропы,—як: МакДональда, Л.-Джоржа. Гэндэрсона, Клайнса, Кенворты — з Англіі, Пэнлеве, Эрыо і інш. — з Францыі, Бэрнсдорфа, Вэндэ і інш.—з Бэрліну, гр. Ляфонтэна і Вандэрвэльдэ—з Бэльгіі, Соўкуна, сэнат. Грбэна—з Прагі і інш.

Суд у Роўным вяліка-душна пастановіў — дапусьціць усіх гэтых „сьведкаў“ ці экспэртаў, але запрапанаваў толькі выклікаць іх усіх—на кошт падсудных. Тады дэп. Васыньчук зьвярнуўся да ўсіх іх асабіста з просьбай прыехаць на свай кошт, каб бараніць праўду і падтрымаць салідарна правы і вольнасьць народу і парляманту, як найважнейшы супольны для ўсяго сьвету скарб сучаснай цывілізацыі.

На жаль, ніхто з запрошаных не здалеў прыехаць, але ўсе яны бяз вынятку адгукнуліся вельмі гарачымі лістамі ці тэлеграмамі, у якіх выражаюць сваю сымпатыю ўкранскім дэпутатам у іх барацьбе з „найрэакцыйнейшым урадам на сьвеце“, як пісала нядаўна француская газэта „l‘Ere Nouvelle“.

„Діло“ друкуе пераклад аднэго з атрыманых лістоў—ад бэльгійскага сэнатара Ляфонтэна, у якім той піша, што для бэльгійскага вуха надта дзіка гучыць веста аб судовай рэпрэсіі проці пaслоў за пасольскія прамовы. Праўды і сьвятла баяцца толькі тыя, што ня маюць слушнасьці, ці маюць што ўкрываць ад сьвету... Змушаць праціўніка да маўчаньня — гэта мэтад самадзяржаўных ці дыктатарскіх урадаў.

Шчыры спогад засуджаным украінцам высказаў такжа галава францускага ўраду Пэнлевэ, што вельмі абурыла польскія газэты, якія бачаць у гэтым спробу мяшацца ў унутраныя справы Польшчы і непашану да польскіх судоў...

Прыпомнім, што іменна Пэнлевэ ў сваім часе першы падпісаў пратэст проці белага тэрору ў Польшчы. Відаць, усе стараньні польскага ўраду „абяліцца“ ў вачох Захаду нікога не пераканалі, быццам „меншасьці“ маюць у Польшчы „рай“...

### Бюджэт Соймам прыняты.

13 траўня на паседжаньні Сойму ўвесь бюджэт Польшчы прыняты ў другім чытаньні. Прапазіцыя зьняць з бюджэту ваеннага міністэрства —ў знак дэманстрацыі проці ген. Сікорскага 100 злотых адкінута.

### Польскія паступоўцы—за павялічэньне выдаткаў на армію.

Былы «вызваленец», які выйшаў з партыі за дамаганьне зямлі бяз выкупу, дэп. Косьцялковскі (асаднік, б. афіцэр II аддзелу), правёў у вайсковай камісіі Сойму павялічэньне на 10 міліёнаў злотых пэнсіяў прафэсіянальным афіцэрам і унтэр-афіцэрам.

### Чаго варта жыцьце кабеты на „Крэсах“?

Толькі з інтэрпэляцыі ў Сойме (P.P.S.) даведаліся мы аб нячуваным нідзе на сьвеце паступаньні ўладаў—у выпадку забойства чалавека.

Дык дзіва, што гэта магчыма толькі на „Крэсах“ і што „дазволена“ толькі польскаму паліцыянту.

У вёсцы Грыбянцы, віленскага павету, паліцыянт Станіслаў Гурны, „практыкуючыся ў страляньні да мэты“, падстраліў жыхарку вёскі Бараноўскую, якая і памерла ад атрыманай раны... І вось вінавайца гэтага „сумнага трафу“ (бо ўсё—ад Бога) быў... пераведзены ў другую мясцовасьць! — Улады, як цьвердзіць інтэрпэлянт п. Плаўскі, нават не парупіліся пацягнуць паліцыянта да адказнасьці — хаця-б за нядбайнасьць.

Запраўды, ці варта „крэсовая“ кабета гэткага клопату для п. паліцыянта і вышэйшай улады... Забіў, дык забіў,—мала іх яшчэ асталася?!

Сколькі-ж такіх „сумных трафаў на „Крэсах“ гіне ў паліцэйскіх архівах,—нявыкрытых ані прэсай ані пасольскай трыбунай?

### Адстаўка міністра таргоўлі Кедроня.

Міністар торгоўлі і прамысловасьці п. Кедронь (сваяк братоў Грабскіх) нарэшце падаўся ў адстаўку—штосьці з паўгоду пасьля таго, як з Соймавай трыбуны закінулі прэм‘еру непрызваітасьць гэткага „сямейнага“ габінэту... Міністрам п. Кедронь быў ад самага пачатку стварэньня габінэту п. Грабскага.

Міністрам гандлю назначаны сучасны віцэ-міністар скарбу п. Клярнэр.

Адстаўны міністар ня шмат страціць, пакінуўшы міністэрскі „фотэль“, бо зараз-жа мае атрымаць мейсца дэлегата Саюзу Горнасьлёнскіх прамысловцаў—з пэнсыяй 125.000 злотых у год... Відаць, было за што і здабыць любоў, і даверые гэтых прамыслоўцаў...

## Заявы п. Вітаса.

Супрацоўнік „K. Polsk.“ меў цікавую гутарку з п. Вітасам пасьля кангрэсу партыі „Пяста“ ў Пазнані 3 траўня.

Гледзячы на 3-майскія парады і працэсіі, п. Вітас сказаў:

„Як глядзіш на гэтыя парады, дык можна сьцьвярдзіць, што **пры агульным заміраньні жыцьця ў дзяржаве** адны толькі людзі разьвіваюцца ў штодзённай мэтнай працы: гэта — **жаўнеры**... Жыве (толькі) наша армія—у гэтым — вялікая заслуга ген. Сікорскага.

Нашае агульнае палітычнае жыцьцё замірае, — дзякуючы фальшывым, няістотным адносінам у польскім парлямэнце, пры якіх нармальная здаровая праца немагчыма.

Нармальнаму жыцьцю, парляманту, паводле п. Вітаса, перашкаджаюць дзьве партыі, якія не даюць магчымасьці п. Вітасу правясьці зямельную рэформу: гэта—эндэкі і Wyzwolenie. — Першая „w sposob swiętokradzki“ засланяе дзяржаўны інтэрас інтарэсам уласным, другая—крайняй дэмагогіяй („бяз выкупу“).

Што найбольш цікава і бясспрэчна трафна ў гэтай размове п. Вітаса, дык гэта азначэньне „заслугі“ генарала Сікорскага: запраўды забіў усё дзяржаўнае жыцьцё краю, каб „мэтна“ жыла і разьвівалася ў Польшчы адна толькі польская армія...

Можа прычына гэтага — ня гэтулькі «гэній» п. Сікорскага, сколькі наагул «гэній» зробленае паводле «дыспазіцыі» генарала Фоша ў Вэрсалі—сучаснай Польшчы?..

### „Культуральны“ край...

Польскія газэты паведамляюць, што ў Астрогу арыштаваны вучань 8 клясы гімназіі, расеец, які меў у сябе ў кватэры радыо-графічны апарат (тэлеграф бяз дротаў) і... „падслухоўваў“, што робіцца на сьвеце. А раз расеец (а мо‘ украінец, бо прозьвішчам Дмітрышэнко),—дык ведама-ж: „камуніст“.

Можа і запраўды меў ён гэты апарат без дазволу паліцыі, але культурныя ўлады ў Польшчы ня ведаюць, ці ня хочуць ведаць, што ўсюды ў Заходняй Эўропе і ў Амэрыцы—радыо-апараты, які тэлефоны, сталіся прадметам звычайнага ўжытку прыватных асоб...

У аднэй Нямеччыне радыо-абанэнтаў (маючых апараты) ёсьць ужо да паўміліёну, і ў гэтым ніякай небясьпекі („шпіёнскай“?!) запраўды культарная ўлада ня бачыць.

А можа і запраўды ляпей, каб вучні гімназіяў былі абанэнтамі на карыстаньне... гранатамі на дырэктароў і вучыцялёў—з казённых складаў?!... гэта—справа густу.

### Зашмат аружжа ў Польшчы.

У Лодзі здарылася нешта падобнае да віленскай трагедыі.—10-летні вучань, Печковскі, гуляючы з таварышамі, раптам зазлаваўшыся, выхапіў з кішані рэвальвэр і забіў з яго на мейсцы 12-летняга вучня Вэсяка...

Цікава, але, відаць, вучні-палякі як у Лодзі, так і ў Вільні, маюць дазвол ад паліцыі на ўсялякае аружжа... А вось дырэктару—Віленскай Беларускай Гімназіі дык не далі дазволу нават на мысьліўскую стрэльбу...

## Заграніцай.

### Далучэньне Манголіі да ССРР.

На III кангрэсе ўсіх Радавых Рэспублікаў прадстаўнікі Мангольскай Рэспублікі афіцыяльна заявілі аб далучэньні яе да ССРР.

### Польскі працэс у Кіеве.

У кіеўскім губэрнскім судзе адбыўся працэс капітана Жукоўскага і яшчэ некалькіх асоб, абвінавачаных у шпіёнстве на карысьць Польшчы. Суд засудзіў Жукоўскага і 3 яго таварышоў на кару сьмерці.

### Чэмбэрлен аб украінцах і беларусах у Польшчы.

На паседжаньні парляманту 13 траўня адзін з англійскіх дэпутатаў запытаўся, што думае зрабіць урад, каб Польшча выконывала свае міжнародавыя забавязаньні адносна да ўкраінскай і беларускай меншасьцяў, якія церпяць нацыянальныя перасьледаваньні з боку польскага ўраду.

На гэтую інтэрпэляцыю Чэмбэрлен адказаў (паводле перакладу пана ПАТ‘а) так: „Няма сумліву, што ў прошлым украінскае насяленьне мела запраўды слушныя пратэнсіі, але яны ня былі такога роду, каб маглі быць карысна вырашаны шляхам умяшацельства Лігі Народаў (?). Цяпер-жа я зусім пераканаты, што польскі ўрад маніцца пільнавацца адносных артыкулаў Вэрсальскага Трактату і што ў сучасны мамэнт умяшацельства Лігі Народаў не дало-б ніякіх карысных рэзультатаў...

Дык усё-ж такі, няведама, што з двух хоча сказаць п. Чэмбэрлен: ці польскі ўрад запраўды выпаўняе свае забавязаньні адносна да меншасьцяў (тады ўмяшацельства Лігі не патрэбна), — ці ўмяшацельства Лігі было-б патрэбна, але „ў сучасны мамэнт яно ня дасьць ніякіх рэзультатаў“, бо Ліга або бясьсільна, або Ліга (а гэта значыць Англія!) ня хоча ўмяшацца?!.

У кожным разе ў гэтым адказе Чэмбэрлена ўжо чуецца тая „вольная рука“, якую англійская

дыпламатыя гатова даць Польшчы на яе ўсходзе—за вядомыя ахвяры, якіх яна вымагае ад Польшчы на захадзе—на карысьць Нямеччыны!..

**Сэкрэтны мэмарыял англійскага ўраду.**

У амэрыканскіх газэтах апублікаваны сэкрэтны мэмарыял англійскага міністэрства замежных спраў, у якім Чэмбэрлен дае праграму сваей палітыкі—як дырэктыву дыпляматычным прадстаўнікам Англіі заграніцай. У мэмарыяле, як сумна, але слушна пішуць польскія газэты,—выявілася запраўдная „душа" англійскай палітыкі.

Мэмарыял адкрыта прызнае (бо пісаны толькі для „сваіх"!), што палітыка Англіі павінна апірацца не на якімсьці „альтруізьме" (любві да друга), а толькі і выключна на падставах уласнай бясьпечнасьці, не пераходзячы да поўнага абасабленьня.

На першым мейсцы, пасьля гэтага ўступу, мэмарыял сцьвярджае, што большасьць нямецкага народу пакінула думку аб помсьце Францыі, але, з другога боку, як толькі Нямеччына адпаведна ўзмацуецца, дык яна будзе імкнуцца да зьмены пастановаў Вэрсальскага Трактату, у адносінах да данцыгскага калідору і Верхняй Сілезіі. Ясна, што падтрыманьне гэтых імкненьняў мацнеючай Нямеччыны адна з галоўных падставаў палітыкі англійскага ўраду. Бо толькі пасьля гэтага ў мэмарыяле ідзець пагляд аснаўных варункаў бясьпечнасьці англійскага востраву—з боку дзяржаў, валадаючых процілежучым берагам Ляманшу.

**Новыя прапазіцыі Нямецкага ўраду.**

Новую сенсацыю ў Эўропе выклікалі новыя прапазіцыі Нямеччыны саюзьнікам — гарантаваць усе навязаныя ёй Трактатам, граніцы — нават з Польшчай!—за далучэньне да Нямеччыны Аўстрыі.

Нямецкая дыпляматыя пакуль-што толькі спрытна прабуе, у якім мейсцы муры Вэрсальскага гмаху найслабейшыя...

**Пэнсія прэзыдэнту Гіндэнбургу.**

Рэйхстаг вызначыў Гіндэнбургу пэнсію ў ліку 60.000 марак у год, а на прадстаўніцтва — 120.000.

Цікава прыпомніць, што прэзыдэнт Польшчы, п. Войцехоўскі, атрымлівае пэнсіі блізу ўдвая балей, бо 120.000 злотых, а на прадстаўніцтва, раўнуючы з Гіндэнбургам, дастае страшэнна вялікую суму—здаецца, больш мільёна злотых!..

А Польшча-ж блізу ўдвая меншая за Нямеччыну!..

**Амэрыка і Францыя.**

Вядомы і вельмі ўплывовы сэнатар Бора заявіў, што ніколі ня згодзіцца, каб Амэрыкай быў прыняты плян Кайо і, паводле якога Францыя мае плаціць свае даўгі Амэрыцы, паскольку сама будзе атрымліваць нямецкія адшкадаваньні.

**Замах у Лісабоне.**

На каманданта паліцыі ў Лісабоне зрабілі напад некалькі сяброў „Чырвонага Легіёну". Ён цяжка ранены.

**Памілаваньне ўчасьнікаў замаху ў Софіі.**

Баўгарскі цар Барыс памілаваў усіх засуджаных на павешаньне вінавайцаў катастрофы ў Сафійскім Саборы, замяніўшы ім сьмерць на дажывотні вастрог.

**Выкрыцьце змовы ў Белградзе.**

Паліцыя выкрыла новую „бальшавіцкую" змову, меўшую мэтай зрабіць замах на югаслаўскага караля і ўрад Пашыча. Замах меў быць выкананы 15 траўня. Але ўрад аднэй з суседніх дзяржаў паведаміў Югаслаўскі ўрад аб гэтай змове, падрыхтаванай... у Маскве.

Арыштаваны 70 асоб, зразумела: „камуністаў".

**Вайна ў Марокко.**

Як толькі цяпер паведамляе афіцыяльны францускі камунікат, ужо 2 тыдні назад была акружана рыффэнамі француская пляцоўка Аўлей, і толькі цяпер француская асада зьнята.

З тэатру вайны інфармуюць аб новым гвалтоўным наступленьні Абдул-Керыма.

Францускае камандаваньне сцьвярджае, што.. усе пазіцыі французамі ўтрыманы...

З Парыжу паведамляюць:

15. V, пасьля 2-х-дзённых баёў францускія войскі адкінулі паўстанцаў на ўсей лініі. Страты ў французаў нязначныя, у кабілаў-цяжкія.

Абдул-Керым зьбірае каля Шэшуана новыя войскі.

Таксама і з Мадрыту пісалі раней аб пабедах гішпанскіх войскаў. Тады праз Парыж мы даведываліся аб праўдзе... Можа цяпер Мадрыт пачне рабіць тое, што Парыж рабіў тады!..

## Гараць францускія „крэсы".

Як цьвердзіць з захапленьнем узмацаваўшаяся рэакцыя ў Эўропе, у апошняй яўна адбываецца „пацыфікацыя" (ўміратварэньне) і „стабілізуецца парадак".

Так-званыя „Крэсы" Польшчы, Югаславіі, Чэхаславакіі, Румыніі, Латвіі, Грэцыі, — дзякуючы спрытна зразумелай і выкарыстанай „камуністычнай небясьпецы" і шалёнай мілітарызацыі гэтых малых дзяржаваў, на нейкі час — „супакоены"... „Супакоены", зразумела, ня ўласнымі сіламі новых ці падноўленых дзяржаў, але выключна мілітарнай падмогай і апорай вялікіх і дужых саюзьнікаў, а перад усім Францыі...

Аднак, дапамогшы „ўсьмірыць" чужыя „Крэсы", Францыя і яе вялікія саюзьнікі маюць клапоты з сваімі „крэсамі". Паўстаньне ўзьнімаецца за паўстаньнем на землях, якія вялікія дзяржавы абвясьцілі сваей „уласнасьцяй". Толькі што прыпынілася на якісь час паўстаньне на афрыканскіх „Крэсах" Англіі, як пачалося, і здаецца — разгарэлася ў вялікі пажар, — на францускіх „Крэсах" у тэй-жа Афрыцы...

Наагул „эўрапэйская Афрыка", прынамся яе паўночная частка, заварушылася вельмі небясьпечна.

Наскольні вялікая гэтая небясьпека, відаць з таго, што пажар паўстаньня за некалькі месяцаў спаліў на попел гішпанскую ўладу ў Марокко, пакінуўшы да часу „вялікай" эўрарэйскай дзяржаве толькі штось са дзьве „галавешкі" на паўночным узьбярэжжы: Цэйту і Мэлілу, якія Гішпанія захапіла нешта з чатыры вякі назад. У кожным разе такая сэнсацыйная перамога нейкіх „чорных" арабскіх плямён над вялікай белай, дый яшчэ невяваўшай, ня вычарпанай эўрапэйскай дзяржавай — кажа аж надта красамоўна аб тым, што магутная Эўропа ня толькі „дасьпела", але можа ўжо і перасьпела, і з яе дрэва адно за адным пачынаюць падаць яблыкі...

Неспадзявана хуткі гішпанскі крах у Афрыцы ясна паказвае, што справа—шмат глыбейшая і паважнэйшая, чым прыпадак ваеннай няўдачы: гэта чародная праява таго вялікага працэсу „самагубства Эўропы", які найярчэй выявіўся ў Вялікай вайне.

Сымвалічна і тое, што стары працэс неперможнага, трыумфуючага паходу Эўрапэйцаў на „каляровыя кантынэнты", ці „крыжа проці паўмесяцам", пайшоў цяпер неяк у адваротным напрамку. Дый—няма чаго Эўропе дзівіцца ці абурацца: калі сама Эўропа пачала ў сябе „пераглядаць" усе „гістарычныя правы", маючыя „даўнасьць валадэньня" ажно 700 гадоў (як напрыклад у справе Нямецкай Сілізіі...), дык ужо адным гэтым адчыніла шырока браму для гэтага перагляду—нават у тых выпадках, калі гэта, мягка кажучы, і не на карысьць яе сучасным дыктатарам...

Кожнаа з вялікіх дзяржаў мае свае „Крэсы" у Афрыцы: Гішпанія—Марокко, Францыя — Туніс, Англія — Ягіпет, Італія — Лівію, ці Трыполітанію. І вось, трэба сцьвярдзіць, што ўсе гэтыя „Крэсы" ахоплены полымем... Але, калі гішпанская улада ў Марокко спалілася ў некалькі месяцаў, англійская здалела пакуль-што хутка загасіць, заліўшы вадой ці крывёй, свой пажар у Ягіпце. Што-ж датычыцца францускай улады ў Афрыцы, дык можна сказаць наперад, што яы лёс будзе сярэдні паміж лёсам гішпанскай і англійскай.

Бо-ж трэба ведаць, што для вычарпанай людзьмі і грашмі Францыі, ледзь балянсуючай на тэй штучнай вышыні, на якую ўзьнясла яе не яе перамога у вялікай вайне, „тушэньне пажару" на яе афрыканскіх „Крэсах" будзе вельмі цяжкім. Дый гэтая агнявая спроба можа пацягнуць для ўсей Вэрсальскай Эўропы вялікія, не прадугледжаныя пасьледзтвы. Дзеля таго ў кожным разе варта прыглядзецца бліжэй і ўважней да гэраічнай барацьбы сьмелага хаця й ня белага народу, зваліўшага ўжо аднаго свайго ворага і выступіўшага проці другім ворагам, які раптам вырас за трупам першага, варта прасачыць гэтую барацьбу народа, які не ўбаяўся паўстаць проці таго, хто ў жалезным кулаку сваім зацісную і трымаў усю Эўропу.

(Канец будзе).

## Аб чым пішуць.

**Ідыльля...**

Орган кумпаніі, нанятай дзеля „полёнофільскай" работы,—„Грам. Голас"—у нумары з 10 траўня апісывае той „рай", які маюць у Польшчы... беларусы!

Ніхто і ніщто ня можа перашкодзіць істнаваньню, напрыклад, нацыянальных культурна-прасьветных беларускіх гурткоў у правінцыі, куды павінна шырокаю хваляю пайсьці беларускае кніжнае слова і прынясьці кожнаму тую веду, якую яно можа даць. Наш рух у культурна-прасьветным кірунку бязумоўна зьяўляецца магутным фактарам і ў нашым палітычным жыцьці. А ў гэтай форме мы можам заўсёды саўсім легальна арганізоўвацца ў рамках залегалізованых статутаў нацыянальна-культурных нашых арганізацыяў.

На жаль, кожны паліцыянт „можа перашкодзіць істнаваньню" кожнае культурнае беларускае ўстановы,—дый ня толькі можа, але на дзеле *і перашкаджае*! Нават учасьце ў такіх установах заведамых агентаў дэфэнзывы не забясьпечывае іх ад забароны: найлепшы прыклад—недапушчэньне ўрадам беларускіх вучыцельскіх курсаў, хаця яны мелі быць ведзены пад апекай п. п. Валэйшы і Павлюкевіча, а выкладаць на іх меўся (— з дазволу п. куратара Гонсёровскага!) „сам" п. Макар Косьцевіч!

Як-жа пасьля гэтага ў таго-ж п. Косьцевіча падыймаецца рука пісаць гэткія брэдні?

Відаць, злоты запраўды вялікі чарадзей!

# ХРОНІКА.

+ **Літоўскае культурнае сьвята.** У нядзелю, 17 мая, віленскае літоўскае грамадзянства сьвяткавала сваё культурнае сьвята, якое блізу зыйшлося з сьвятам літоўскае незалежнасьці (15 мая), урачыста сьвяткаваным у Коўні.

Віленскія літвіны ў мінулую нядзелю сьвяткавалі 20-лецьце ўзнаўленьня легальнае прэсы і легальнага друку ў літоўскай мове на роднай зямлі: бо-ж як-раз 17 мая 1905 году расейская ўлада скасавала трываўшую 40 гадоў забарону друкаваць палітоўску лацінскім шрыфтам. Расейскі ўрад хацеў гвалтам навязаць літвіном „гражданку" і толькі гэткім шрыфтам дазваляў ад 1865 году друкаваць літоўскія кніжкі. Але літоўскі народ рашуча супраціўіўся гэтай спробе і—выйшаў пераможцай з 40-летняе барацьбы. Вось, чаму скасаваньне забароны літоўскага друку мае гэткае вялікае значэньне: гэта — сьвята перамогі!

Літоўскае Навуковае Т-ва ўладзіла сход, на якім дзяліліся з сабранымі сваімі ўспамінамі аб барацьбе літоўскага народу за сваё адраджэньне старшыня Т-ва, д-р Бассановіч (палітоўску) і вядомы віленскі адвакат Врублеўскі (папольску). Абодва—людзі старыя, многа бачыўшыя і памятаючыя, дык для маладзейшага пакаленьня іх апавяданьні былі якбыццам нейкім адкрыцьцем. Трэйці выступіў рэдактар «Przegl. Wil.», п. Абрамовіч (папольску), які даў гістарычны агляд разьвіцьця друкарства ў Вільні ад часоў Скарыны,—што дало сходу характар і сьвяткаваньня 400-лецьця закладзінаў першае друкарні (беларускае) ў сталічным месьце нашага краю.

На сходзе былі прадстаўнікі беларускага грамадзянства, а такжа праўдзівых польскіх краёўцаў у асобах абодвух прамоўцаў — п. п. Врублеўскага і Абрамовіча.

Увечары ў Літоўскім Клюбе адбыўся банкет з учасьцем гасьцей тых-жа нацыянальнасьцяў.

× **Высяленьне работніцкіх арганізацыяў.** Апэляцыйны суд зацьвярдзіў прыгавор першае інстанцыі аб высяленьні работніцкіх клясавых арганізацыяў з **казённага** дому (б. дом губэрнатара) пры Губэрнатарскай вуліцы ў Вільні.

А вось так-званыя «хрысьціянскія» саюзы, захапіўшыя **прыватны** дом пры Вялікай вул. (побач з Саборам), і па сяньняшні дзень сядзяць тамака і таргуюць памяшчэньнямі, і ніхто іх стуль ня выкіне: гэты-ж дом—уласнасьць праваслаўных архірэяў!

× **Водгукі віленскае трагедыі.** Бацька пагібшага вучня Обромпальскага апублікаваў пісьмо ў абароне свайго сына, рэзка нападаючы на школьную ўладу і школьную сьледчую камісію.

А п.п. Гонсёровскі і Сьвідэрскі ўсё яшчэ сядзяць на сваіх месцах і... і будуць сядзець хіба да новага горшага скандалу! Прынамся польская прэса наказуе, што нельга ждаць ніякіх зьмен у асабовым складзе віленскага кураторыуму...

× **Крэдыты на адбудову Віленшчыны.** Польскі ўрад дадаткова асыгнаваў 900.000 зл. на адбудову Віленшчыны і абяцуе яшчэ даваць пасьля. **Але адбудоўвацца будуць... касьцёлы, урадавыя гмахі і т. д.**

× **Падаткавыя палёгкі на Крэсах.** Міністэрства скарбу загадала скарбовым Ізбам у **Бярэсьці, Луцку, Вільні** і **Беластоку**, каб на падлягаючым ім абшары рабілі палёгкі пры спагоне дахадовага падатку з сялянскіх гаспадарак, — якія зруйнаваны вайной,—адлічаючы ад сумы даходу выдаткі, зробленыя гаспадарамі на адбудову гаспадарскіх будынкаў.

× **Крэсавы стараста—канакрад!** 12 траўня Віленскі Акружны Суд аб'вясьціў прыгавор свой у справе б. дзісьненскага старасты Дуніна-Маркевіча і яго калегаў па службе, якія пабралі сабе каней, прысланых з «Дэмабілю» «для зруйнаванага насяленьня»...

× **Бітва паліцыі з вар'ятам.** У Вільні ў бальніцы сьв. Якуба сядзіць арыштаваны ўладамі вар'ят, нейкі Васілеўскі, якога пільнуе паліцыянт. За які «крымінал» яго арыштавалі, ня ведаем. Вось, «Słowo» апісывае, як 15 мая з гэтым вар'ятам, пробаваўшым адабраць вінтоўку ў паліцыянта, у працягу 2 гадзін ваявалі 6 паліцыянтаў і ўсе дазорцы, ня могшы з ім парадзіць. Толькі пасьля 6 стрэлаў з рэвальвэру ўдалося яго зьвязаць,

Цікава, якая гэта ўстанова трымае пад арыштам гэтага вар'ята?

# Карэспандэнцыі.

**„Ці жораў у небе, ці родная школа".**

*(Сьнегі, гміны Лідвкае, Дзісеншчына).*

Мусіць, гэтак усюды робіцца, як і ў нас 23-га красавіка здарылася. Прыехаў нейкі пан, казалі, што якісь-то дэлегат з кураторыуму, і зьвярнуўся да сабраўшхся грамадзян у школе (вядома, што польскай) з тым, што трэба стаяць за польскую школу, што родная нам ня трэба, а тых, што хочуць, каб была беларуская школа, абазваў здраднікамі і г. д. Палаяў добра і вядомага барацьбіта за сваю мову, айца Шутовіча і дакляраваў сялянам, што яго ўжо праз месяц ня будзе ў Барадзенічах.

Брудны і агідны спосаб барацьбы выбраў гэны пан. Так ня робяць культурныя чэсныя дзеячы, хаця і ворагі.

Пасьля з'ехаў на зусім другое. Стаў баіць, што ў нас будзе так, як і ў Амэрыцы, або ў другіх культурных краёх. Будуць пахаць паравымі плугамі і г. д. Казаў папольску. Сказаў, што ён быў у ўнівэрсытэце. Езьдзіў у Варшаву і яшчэ куды-то, многа чаго добрага відзеў і хоча завясьці і тут нейкі рай. Адным словам, бліскучую пэрспэктыву намаляваў.

Запытаўся, чаго гэта дзеці ў нас так бледны: памяшчэньне прасторнае. Адказалі з горкай усьмешкай, што дзеці бледны затое, што мала калі хлеб відзяць...

Пасьля дакляраваў зямлі, абы толькі быў парадак і прыхільнасьць да Польшчы.

Усе зразумелі, што гэта ўсё жораў у небе, а што гэтаму пану трэба нешта зусім другое.

„А як-жа мы купім, паночку, зямлі, калі мы грошы ня маем? Паны калісь казалі, што зямля будзе нам дарма, а выходзіць, што трэба купляць?“ — запытаўся адзін з грамадзян.

Тут ён ізноў стаў баіць, што ён дзеля гэтага і прыехаў, каб мы маглі дастаць зямлі. Ведае балючае мейсца нашага бедака-земляроба! Трэба толькі залажыць „Koło rolnicze“, а тут дадуць пазыку з банку, і зямля будзе!

Пачалі нашы смяяцца, што гэты добры пан зямлі нам у кішані мусі прывёз. А ён такую лісіцу ўдаваў, але капцюры то ваўчыныя добра відаць! Народ стаў пудзець: як яны атрымаюць грошы, як і дзе будуць купляць зямлю, а некаторые дык пачалі ўжо і дзяліць.

Пакуль спорылі, за гэты час прыгатавалі два пратаколы. Адзін — на „koło“, а другі — на школу. Трохі сьціхлі, і гэны пан прачытаў абодвы пратаколы, сказаўшы, што трэба падпісацца. Тут усе зашумелі і павалілі вон з памяшчэньня. „Ня трэба нам вашай школы“, — кажуць, — „а зямлі вы пэўна не дасьцё, а купляць мы ня маем за што“ — і пашлі. Засталіся толькі каталікі з в. Семянішак, каторыя не складалі дэкляроцыяў на беларускую школу, бо думаюць, што ў іх жылах цячэ „кроў пястова“.

Трэба сказаць, што з Сьнегаўскага школьнага раёну падалі завераных дэкларацыяў на 47 дзяцей, каб перотварылі польскую школу ў беларускую. Народ папольску ня дужа разумееўь, а тут яшчэ пан дэлегат, у пратаколе чытаючы, прапусьціў слова „польскую“ (пэўна з мэтай), і вышла, што народ просіць, каб у Снегах была школа і ніхто ня бачыў, што там напісана школа „польская“, а не беларуская. Але ўсе Сьнегі, Бейкі, Ваўкоўшчына і Гізоўшчына выйшлі, кажучы, што мы падалі ўжо дэкляроцыі на родную школу, як гэта сказана ў распараджэньні Міністра Асьветы, і падпісываць гэтага пратаколу ня будзем.

Не падпісалі так-жа і другога пратаколу.

Праўда, знайшліся некаторыя здраднікі: Мікола Кубельнік, Аляксандр Трубіла, Антоні Мядзьведзь і Пётра Казіміров Тавкін. Дзівуешся толькі на іх. Паслалі дэкляроцыі аб роднай школе і падпісаліся на польскую. Пытаемся, што за прычына такога здарэньня? Адзін маўчыць, другі кажа, што ён ня ведаў, што гэта на польскую.

Быў і такі дзядзька, Мікола Лаўрыновіч, каторы ўсё то губляў, то забываўся дэкляроцыю на родную школу, ды так і не пасьведчыў, а тут уторкнуўся—падпісаўся і маўчыць сабе.

Не абыйшлося ў канцы сходу бяз сьмеху. Ідзець сабе чалавек да выхаду і маўчыць на просьбу падпісацца.

„Co to za człowiek? jak nazwisko“,—пытаецца гэны дэлегат у аднаго.

„А гэта няпісьменны“—кажа той.

„Чы он католік?“

„Каталік“.

„A może on chce polskiej szkoły, niech pan za niego podpiszesie“.

„Як-жа я, пане, буду расьпісавацца за яго, калі ён мяне не прасіў.

„No, to prawda“.

У гэты час за сьпіной войта і дэлэгата сталі распісавацца Семянішкі. І малыя і вялікія. Адзін хлапец дык запісаў шмат каго. Акрамя Семянішак усе гурбамі павылятали з школы. На крык пана дэлегата аб падпісу толькі і чуеш сярод сьмеху: „Няпісьменны, няпісьменны“.

„А можа п. войт падпіша за няпісьменных?“ — кажа войту гэны пан. Але войт толькі паціскаў плячамі і не падпісаў у гэты час.

Сколькі там напісалі, каб аставалася польская школа ў Сьнегах, ці падпісаўся войт за парожнае памяшчэньне, ня ведаю; толькі хацелі мы дужа, каб па нашых дэкляроцыях ператварылася польская школа ў Сьнегах у родную беларускую, а Семянішкі няхай-бы сабе мелі польскую. Але неяк ня верыцца ўжо ў гэтую абяцанку-цацанку паноў.

Неяк абідна і цяжка за гэтыя зьдзекі з боку „братоў-славян“. Але гэным нашым „дабрадзеям“, што хочуць нас перарабляць на свой капыт, мы адкажам славамі нашага песьняра Янкі Купалы:

„Напасьцяй лаянкай напраснай
Грудзей ня варта мазаліць!
Не пагасіць вам праўды яснай:
Жыў беларус і будзе жыць!“.

**Сьнегаўскі.**

### Знайшліся здраднікі.

(*в. Запольле, Пачапаўскай гм., Наваградзкага. пав*

Была ў нас польская школа, нешта з год праклявала і сама сабою развалілася, бо, хаця ў вёсцы дзяцей у школьным веку больш за сотню, а вучыць у школе ня было каго, і ніякія прынукі не маглі бацькоў прымусіць пасылаць дзяцей дзеля калецтва ў гэтую чужую для нас школу.

Але, вось дачакалі языковых уставаў і давай пісаць дэкляроцыі на сваю родную школу беларускую. А паліцыя як тут была: зьявіліся аж 4-х паліцыянтаў у вёску, зайшлі ў хату да Габруся Жыха і давай адзін з іх, Казлоўскі, пытацца і запісываць, хто і гдзе дастаў і пісаў дэкляроцыі і г. д. Назаўтра ў гміну з дэкляроцыямі пайшлі, але ня ўсе: іншыя не пайшлі, гаворачы, што ня варта дарэмна ног біць 10 вёрст, бо ўсё роўна паны нам нічога не далі і не дадуць, калі ўжо на першым кроку паліцыя ўмяшалася.

Але больш сьвядомыя і энэргічныя пайшлі і заверылі дэкляроцыяў на 46 дзяцей. Войт пан Мороз, „хоць і свая костка, але пачынае абрастаць вядомым мясам“, — парадкам тармазіў, і так яму цяжка было, што аж тры дні „працаваў“ над дэкляроцыямі, пакуль заверыў.

Але-ж такі, як ні было, выбралі паўнамоцаіка Васіля Клімко, які і здаў дэкляроцыі Школьнаму Інспэктару ў Наваградку 23.-III. 1925 г. Здаецца, зрабілі ўсё, ды ня тут тое было: ўскорасьці неяк зьявіўся на сходзе ў вёсцы кіраўнік 7 кл. польскай школы ў Стараельнай «панок» Вороновіч, і давай угаварываць бацькоў, каб падпісываліся на польскую школу, ганіў беларускую мову, казаў, што з беларускаю навукаю далей не паедзеш, як на кірмаш і г. д., ды нічога: людзі з яго толькі пасьмяяліся, і пайшоў ён, як фунт мыла зьеўшы. Але на гэтым ён сваей «працы» ня скончыў, бо, мусіць, дастаў цьвёрды прыказ ад інспэктара, каб не дапусьціць беларускай школы ў Запольлі. Ён зьявіўся другі раз, узяў падсолтыса і аднаго сьведку і давай уночы цягацца па хатах бацькоў. Сьпярша яму не шанцавала, але як дайшоў да хаты крамніка Міхася Тараса, які таксама падаваў дэкляроцыю на беларускую школу, дык той аслупеў ці ашалеў нейкаю дурною радасьцю, што да яго зайшоў такі „важны пан“, пасадзіў яго на покуць і пабег па вёсцы шукаць больш здраднікаў, каб падпісалі нейкую паперу, што прынёс панок Вороновіч, прывалок Габруся Жыха, Ігнася Бортніка, Міхася Кухту (самых разумнейшых), за кампанію яшчэ абдурылі дзьвёх кабет: Ганну Казьліху і Зосю Юшкевіч. Усе яны падпісаліся, што хочуць польскай школы.

Але няхай хоць лопаюць і на сьцену лезуць паны і іх падлізы і паслугачы,—будзем дзяцей вучыць, як самі ўмеем—у сваёй роднай мове, а палякамі нас ня зробяць.

Трэба сказаць яшчэ некалькі слоў аб нашым крамніку Тарасу. Пакуль ён не займаўся гандлем, то быў чалавекам, а цяпер дык зусім зьмяніўся: ўвесь гандаль яго трымаецца на „шашкох“ — гэта значыць: ён паціхоньку прымае ад дзяцей: крупы, муку, яйкі і ўсялякае збожжа. Дзеці крадуць у бацькоў, а падчас і ў суседа і абменьваюць ўсё гэта на гарэлку, тытун, цукеркі, жучкі і інш. Можа, ён і схамянуўся, што як будзе ў вёсцы школа, то гэтага ня будзе—можа часамі тут сабака і закопана?!.

**Бацька Беларус.**

### Вясковая моладзь байкатуе польскія спэктаклі

(*Вёска Сялявічы, Міжавіцкае* г.м.).

З рухам нашых беларускіх вёсак да сваіх беларускіх школ заварушылася і „Koło Młodzieży“ (польскае) ў нашай вёсцы: пачало ставіць спэктаклі. Гэтак 13 красавіка была пастаўлена п'еска „Адам і Ева“. Але, дзякуючы таму, што спэктакль гэты адбываўся ў польскай мове і польскім духу, наша моладзь, хаця і ўсе яны каталікі, на спэктакль не пайшла. Пасьля гэтай няўдачы „кола“ артысты яго на другі раз 19 красавіка паехалі ў суседняе мястэчка Азярніцу і там паставілі тую-ж самую п'еску. Але і там ніхто з беларускай моладзі не пайшоў паглядзець Адама і Еву. Затое было на спэктаклі душ 15 паліцыянтаў, ды гэтулькі-ж жыдоў і чалавек 5—6 інтэлігентаў-польскіх вучыцялёў.

Усе гэтыя спэктаклі вядуцца пад кіраўніцтвам вучыцеля польскай школы Пелухі, які і абнавіў „коло“, бо яно саўсім было развалілася. Набраў у яго дзяцей ды некалькі хлапцоў з моладзі, а іменна: Сьцяпана Серкевіча, дабравольца польскай арміі, Мік. Акулевіча, вясковага кулака, і 2—3 яшчэ хлапцоў, якія ні цэ, ні бэ не разумеюць, і з каторымі так пан вучыцель старацельна навязвае нам сваю мову і сваю культуру.

Не, паночкі, годзі ўжо забіваць нашы галавы вашымі „ідэаламі“ і карміць нас духоўна вашай культурай. Ня прышчэпіцца яна да нашых сэрцаў, бо яна чужая і пры гэтым панская. У нас, беларусаў, ёсьць свая мова, свая культура, ёсьць і будуць сваі школы, ёсьць моладзь, якая ўзгадуецца ў сваіх школах і накорміць мужыка-беларуса ядою жывою.

**Аўген Блажук.**

## Беларусы ў Латвіі.

### Далейшыя зьдзекі над беларусамі.

Ня гледзячы на апраўдальны прыгавор суда, Латвійскі ўрад усё яшчэ не зьмяніў сваіх варожых адносінаў да беларускае меншасьці.

Былым абвінавачаным: К. Езавітаву, У. Краскоўскаму, П. Мядзёлцы і В. Пігулеўскаму ўсё яшчэ не вярнулі ім правоў, і да гэтага часу яны астаюцца без пасадаў.

А школы тым часам задыхаюцца без вучыцялёў.

Беларусккі Аддзел да гэтага часу ў руках ворага беларусаў, вядомага латышскага шавініста Заліта.

Мала таго. — Не здалеўшы засудзіць на кару турмой былых абвінавачаных, урад прымусова высылае з Латвіі гр. гр. Я. Краскоўскага, П. Мядзёлку і А. Якубецкага.

З ахвотай выслалі-бы і К. Езавітава з Пігулеўскім, ды яны—латвійскіе грамадзяне.

Уся беларуская меншасьць узята „пад падазрэньне“.

Шукаюць „сэпаратыстаў“, старонькаў Радавай Беларусі.

Жыхарства страшэнна абурана гэтымі зьдзекамі.

Культурна-прасьветныя Т-вы „Рунь“ і „Беларуская Хата“ падалі пратэсты супраць высяленьня беларускіх вучыцялёў.

Урад, здаецца, ня зьбіраецца адмяніць сваей пастановы і, відавочна, І. Краскоўскі, П. Мядзёлка і А. Якубецкі ўсё-ж-ткі будуць высланы.

Расейцы і палякі, карыстаючыся момэнтам, вядуць шалёную агітацыю за перайменаваньне беларускіх школ у расейскія і польскія, застрашаючы жыхарства, што ўсіх беларусаў—чакае высылка.

Гэткім чынам сваей бязглуздай палітыкай латвійскі ўрад з аднаго боку аддае беларусаў на палянізацыю і абмаскаленьне, з другога боку сам выклікае ў іх пачучьцё нездаваленьня дзяржавай і імкненьне да Радавае Беларусі.

Ня было ў беларусаў у Латвіі „сэпаратызму“, дык дурнымі стараньнямі ўлады ён цяперака прывіваецца.

Замест таго, каб зрабіць беларускай меншасьці гэткія варункі жыцьця, якія-б выклікалі ў ёй прыхільнасьць да латвіі, латвійскае чынавенства бярэ прыклад з Польшчы і хоча ўтварыць беларусам пекла, з якога беларускі селянін будзе рвацца, куды вочы глядзяць.

### Пашырэньне беларускага руху ў Латвіі.

Ня гледзячы на рэпрэсіі ўраду, (а мо' як раз і з прычыны іх!), рух беларускі ў Латвіі ня толькі ня падае, але пашыраецца.

Асабліва шпарка пайшоў ён пасьля працэсу.

Беларусы перайшлі, нарэшце, ад культурна-прасьветнай працы яшчэ і да палітычнае працы.

У Рызе стварылася беларуская сэкцыя пры сацыял-дэмакратычнай партыі.

У правінцыі ідуць гутаркі з партыяй трудавікоў.

Апрача таго, закладаецца сваё самастойнае палітычнае т-ва, маючае на мэце правесьці выбары ў сойм.

Зьбіраюцца грошы на беларускую газэту, якой, здаецца, будзе кіраваць гр. К. Езавітаў, які рабіў ужо некалькі спробаў наладзіць сталы беларускі друк у Латвіі.

Вучыцельства, грамадзянства і сяляне ахвотна складаюцца на газэту. Ёсьць асобы, ахвяроўваючыя па некалькі тысячаў рублёў.

### Беларускія вечарыны ў Рызе.

За апошнія тры тыдні ў Рызе адбыліся тры беларускія вечарыны.

25. IV. 25. ставіла вечарыну Рыжская Беларуская пачатковая школа.

Затым ставіла вечарыну беларускае культурна-прасьветнае т-ва „Рунь“.

А за ім т-ва „Беларуская Хаты“.

### Беларуская вечарына ў Люцыне.

1. V. 25. вучні люцынскае беларускае гімназіі ладзілі вечарыну, якая дала 19.000 рублёў. Гэта быў рэкордны збор у Люцыне.

Ставілі „Ганэле“.

П'еса прайшла дужа добра.

Вучні, кіраваныя дужа здольнай мастацкай-вучыцелькай, ігралі вельмі добра.

### Дзень Скарыны ў Дзьвінску.

Беларускае грамадзянсcва ў Дзьвінску ўладзіла 2. V. 25. скарынаўскі дзень.

Раніцай быў акт з лекцыяй аб Скарыне са сьпевамі, а ўвечары была пастаўлена вечарына.

Вечарына дала даходу 7.000 рублёў.



Рэдактар-Выдавец **Антон Пракапеня**.

Друкарня Б. Клецкіна, Вільня, Мала-Сьцяпанаўская, 23.